



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 11 (1150) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 12 САКАВІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.




*Па дарозе ў Гарадок можна палюбавацца захапляючымі краявідамі, асабліва ў наваколлі Крулёвага Маста.*

## З рэпарцёрскіх запісак

# У заснежаным Гарадку

У Гарадок дабраўся я пазней, чым звычайна. І не толькі таму, што дарогу зусім замяло снегам, што рэдакцыйная машына проста танцавала на абледзянелых калянах, а перш за ўсё таму, што хацелася палюбавацца цудоўнымі краявідамі. Дарога ў Гарадок, асабліва ў наваколлі Крулёвага Маста, захапляе сваёй прыгажосцю ў кожную пару года. Нездарма ж вядомы прафесар Славінскі называў гэтыя мясціны беластоцкай Швейцарыяй.

Гэтага дня свяціла сонца, а мароз апрануў дрэвы ў мігатлівы іней. Можна было цэлымі гадзінамі стаяць на ўзгорку і пры поўнай цішыні ўзірацца ў зялёна-белае іскрыстае наваколле, быццам зачараванае, быццам казачнае...

Уся штодзённая, нервовая жыццёвая мітусня адплывала кудысь далёка, усе неадкладныя, здавалася б, справы раптам трацілі сваю важнасць і аставалася толькі адвечная прырода са сваёй як жа няўстойлівай, аднак непадкупнай прыгажосцю... Прырода і чалавек, які намагаецца падпарадкаваць яе сваім патрэбам.

*

Як гэта ўдаецца ў Гарадоцкай гміне?

Начальнік Аляксандр Бура вельмі аптымістычна ацэньвае вынікі намаганняў жыхароў сваёй гміны ў мінулым годзе. Кажа ён, што ўпершыню ад даўжэйшага часу ў Гарадоцкай гміне аднатаваны дадатны баланс руху насельніцтва. Гаворачы болей проста, справа зводзіцца да таго, што зараз (на пачатку 1978 года) у Гарадку і ў вёсках Гарадоцкай гміны пражывае 8 458 чалавек і ўпершыню лік насельніцтва павялічыўся, а не паменшыўся, як гэта наглядалася ў папярэдніх гадах.

Хаця... ёсць жа гэтае „хаця". Узрастала насельніцтва самога Гарадка, а з вёсак у далейшым людзі ўцякалі.

*

Чаму?

Начальнік не патраціць на гэта адказаць. І для мяне гэтая з'ява не вельмі зразумелая. Так, Гарадок патрабуе людзей. Гэта праўда. На трыкатажным прадпрыемстве „Каро", дзе можна нядрэнна зарабіць, з падзякай прымуць на працу кожную колькасць ахвотных, бо гэтая фабрыка, якая да 30 працэнтаў сваіх вырабаў прызначае на экспарт, пастаянна хварэе на недахоп рабочай сілы. Каб неяк латаць прадукцыйныя планы, даводзіцца працаваць у свабодныя суботы, а нават і ў святочныя дні.

*

У Гарадку ёсць праца, але няма кватэр. Ёсць дзяўчаты, але няма хлопцаў. Гэта здаецца асноўная прычына ўцёкаў людзей з „Каро". Тое, што ўжо пабудавана і што зараз будуецца, далёка не задавальняе яе ўсё нарастаючых патрэб. Вось у кабінет начальніка амаль сілай урываецца нейкі старэйшы грамадзянін і ўжо ад парога крычыць, чаму начальнік не прызнаў яму кватэры.

— Я ж 25 гадоў, — даказвае сваё, — жыву ў адным пакойчыку з цёмнай кухняй.

(Працяг на стар. 4)

## Весткі з Беластока

Зараз амаль дзве трэці ўсіх жыхароў Беластока жыве ў новым будаўніцтве. Многія з іх атрымалі кватэры беластоцкага жыллёвага кааператыва „Захэнта". Дагэтуляшнія яе жыллёвыя рэсурсы гэта ўжо 345 тысяч квадратных метраў жылплошчы. У 112 блоках, якія пабудаваны на двух пасёлках: А. Міцкевіча і „Пяста", жыве звыш 30 тысяч людзей.

Жыллёвы кааператыў „Захэнта" заснаваўся ў 1958 годзе і, як лёгка можна палічыць, існуе ўжо 20 год. Першы жыллёвы дом быў перададзены ў карыстанне ў 1959 годзе. Знаходзіўся ён на вуліцы Падлеснай 17а.

# 20 працавітых гадоў „Захэнты"

І так з кожным годам павялічваецца ў „Захэнце" колькасць членаў і кандыдатаў, разгортваецца інвестыцыйная дзейнасць, павялічваюцца рэсурсы жылых кватэр. Кааператыў спачатку будаваў свае блокі пры вуліцах: М. Канапніцкай, Э. Ажэшка, Граттера, Алеі 1 Мая, Гетманскай і іншых. Забяспечваў ён у першую чаргу рабочых з вялікіх прамысловых прадпрыемстваў: „Фастаў", „Спомашу", „Ухвытаў", фабрыкі імя Сяржана.

На сваё дзесяцігоддзе кааператыў меў 49 жылых будынкаў, у якіх атрымала кватэры 10 тысяч жыхароў. Якраз тады распачаў ён пабудову першых чатырох будынкаў на пасёлку, які цяпер вядомы пад назвай „Пяста". Тут быў выкарыстаны новы, дагэтуль невядомы на Беласточчыне, прамысловы метад, так званы вялікапліітавы ОВТ. Дзякуючы яму значна паскорыўся тэмп жыллёвага будаўніцтва. У 1972 годзе на пасёлку „Пяста" было перададзена ў карыстанне 8 жылых будынкаў, гандлёвы „Суперсам", прадшколле, а зараз у наступных гадах — школа, шматлікія цэнтры паслуг. У 1985 годзе тут будзе пражываць 40 тысяч чалавек.

У 1975 годзе ў „захэнтаўскіх" кватэрах жыло 22 тысячы людзей. У наступным годзе кааператыў перадаў у карыстанне 807 кватэр і ў 1977 годзе — 697.

Жыхары пасёлкаў, а перш за ўсё актыў „Захэнты", уключаюцца ў шматлікія грамадскія пачыны. Такім чынам, на новых пасёлках хутка загаспадарваюцца пляцоўкі між будынкамі. Як бач паяўляюцца вуліцы, новыя тратуары, спартыўныя пляцоўкі, дрэўцы, кустарнікі, кветкі. У мінулым годзе выканана грамадскай працы на суму 787 тысяч злотых. Тады ж было пасаджана 730 дрэўцаў і 14 500 сезонных кветак.

Кааператыў вядзе шырокую выхаваўчую, асветную і разрыўковую працу. На пасёлках працуе 18 спартыўных калектываў і секцый, музычныя, вакальныя, танцавальныя і іншыя мастацкія калектывы, гурткі фотааматараў і мадэльшчыкаў.

(Працяг на стар. 5)

# З'езд карэспандэнтаў

Дзякуючы ім, карэспандэнтам, рэдакцыя ў пастаяннай сувязі з штодзённым жыццём. Яны, як тэлефонныя правады, нясуць розныя паведамленні, навіны. Кожны дзень прыходзяць лісты з розных мясцін Беласточчыны і, зрэшты, не толькі. То нейкая пахвала, то крытыка, то вартае паказання здарэнне, то проста сігнал, на які трэба паехаць журналісту. Хопіць толькі глянуць на сёмую старонку — трыбуну чытачоў. Якая там колькасць розных інфармацый. Ды і не толькі на сёмай. За 1977 год было змешчана ў „Ніве" аж 642 матэрыялы карэспандэнтаў — заметкі, артыкулы, фельетоны, а нават вершы. Ужо пяты раз падрад рэдакцыяй праводзіўся конкурс на найлепшага карэспандэнта года і штогод арганізуюцца з'езды, каб падсумаваць працу, паслужыць парадай, каб старэйшыя карэспандэнты змаглі падзяліцца сваім вопытам з пачынаючымі.

Сёлетні з'езд адбыўся дзевятага лю-

(Працяг са стар. 3)



*Удзельнікі з'езду.*



*Узнагароду атрымоўвае другі карэспандэнт года Уладзімір Сідарук.*

ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

# У свеце царкоўнай музыкі



„Упершыню царкоўная музыка выйшла за сцены храма і стала даступнай шырэйшаму грамадству. У Польшчы гэта было, бадай, першае пазалітургічнае выкананне многіх харавых твораў музыкі з абедні і вячэрні, выкананне сапраўды дасканалае... Другая частка канцэрта называлася „Літургія“ — усё гэта здзіўляла, хвалявала і захапляла нават самых патрабавальных знаўцаў музыкі“. Такой ацэнкай прывітаў часопіс „Аргументы“ першы публічны канцэрт **калектыву царкоўнай музыкі,** які пад кіраўніцтвам **Юрыя Шурбака** дзейнічае пры **Варшаўскай камернай оперы.** Ад таго памятнага выступлення 2 лютага 1972 года ў Варшаве гэтае захапленне слухачоў і музычных крытыкаў не паслабела і па сённяшні дзень, бо кожны новы канцэрт калектыву — гэта новы яго трыумф. А дагэтуль было гэтых канцэртаў каля сотні, прытым не толькі на сталічных сцэнах, але і па ўсёй краіне — у Беластоку, Любліне, Кашаліне, Аполі і іншых гарадах, заўсёды ў перапоўненых залах. Калектыў наіграў свае спецыяльныя канцэрты для Польскага радыё, тэатраў Варшавы, Шчэціна, Жэшова, удала выступіў на Фестывалі харавой песні ў 1975 г. у Мендзыздроях, у месяцы чэрвені мінулага года паспяхова канцэртаваў у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі. Дзве доўгаіграючыя пласцінкі з творамі ў яго выкананні, выпушчаныя „Польскімі найграннямі“ і „Верытонам“, былі маментальна распрададзены. Калектыў ужо наіграў адну доўгаіграючую пласцінку ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі, а цяпер рыхтуе да выпуску там жа другую пласцінку са сваім выкананнем „Усяночнага дбання“ А. Архангельскага. Навосень бягучага года паедзе на двухтыднёвае турнэ па Швейцарыі, у плане выступленні ў Берне, Жэневе, Цюрыху і іншых гарадах.

Аднак Ю. Шурбак заўважае, што як дагэтуль наймацнейшае ўражанне ён вынес з выступлення з калектывам у сваім родным Бельску. І гэта заканамерна. Тут, на Бельшчыне, ён рабіў свае першыя крокі ў жыцці і музыцы, тут закончыў агульнаадукацыйны ліцэй, тут таксама раскрыўся яго дырыжорскі талент. Некалькі год кіраваў бельскім хорам БГКТ і эстрадным калектывам „Лявоніха“ пры Галоўным праўленні БГКТ у Беластоку. Гэта былі вельмі плённыя гады на мастацкія здзяйсненні для абодвух нашых калектываў, а таксама ў дасканаленні дырыжорскага майстэрства і ўмення працаваць са спевакамі для самога Ю. Шурбака.

Пасля пераезду ў Варшаву ён не пакінуў сваіх музычных зацікаўленняў, а якраз наадварот — усямерна паглыбляў свае веды ў галіне музыкі, развіваў музыкальныя здольнасці. Цікава, што сярод трыццаціасабовага калектыву знаходзяцца і спевакі родам з Беласточчыны: бас Міхал Артысевіч з Бельска, тэнар Андрэй Ваўрынюк з Кожына, альт Ядвіга Раппэ з Беластока і сапрана Марыя Шыдлоўская з Гарадка.

Папулярнасць калектыву не выпадковая. У часе яго выступлення ад першай ноты слухачы акунаюцца ў багацейшы свет даведзеных да вяршынь мастацкай дасканаласці мелодый, што ад часоў першых хрысціянскіх абшчынаў на працягу амаль двух тысячагоддзяў нязменна развіваюцца і ўзбагачаюцца. Яны ўвабралі ў сябе найлепшыя музычныя традыцыі Блізкага і Сярэдняга Усходу, старажытных Элады і Рыму. У раннім сярэдневякоўі расцвілі пышнымі творамі ў Візантыі. Разам з прыняццём праваслаўнага хрысціянства паўднёвымі і ўсходнімі славянамі ўзбагаціліся матывамі музычнага фальклору і новымі творчымі талентамі ў Балгарыі, Сербіі, Кіеўскай Русі і іншых краінах. Пасля падзення Візантыйскай імперыі царква спачатку Маскоўскага княства, а затым яго спадчынніцы Расійскай імперыі стала вядучым цэнтрам далейшага развіцця царкоўнай музыкі. Тут на працягу некалькіх стагоддзяў плённа дзейнічала шматлікая плеяда яе стваральнікаў і рэфарматараў, між іншым: А. Мецянец, М. Турчанінаў, М. Беразоўскі, Д. Бартнянскі, А. Архангельскі і многія іншыя. Развівалася яна ў агульнаеўрапейскай музычнай плыні, а не малы ўклад унеслі ў яе ўзбагачэнне такія волаты рускай і сусветнай музыкі, як М. Рымскі-Корсакаў і П. Чайкоўскі ды іншыя творцы. У наш час праваслаўную царкоўную музыку ствараюць вядучы сучасны польскі кампазітар К. Пандэрэцкі і шэраг іншых кампазітараў.

На канцэрце 18 лютага бягучага года ў Беластоцкай філармоніі калектыў выступіў з багатай і з густам складзенай праграмай. У ёй знайшліся творы аж дзесяці кампазітараў, творы з надзвычай вялікім дыяпазонам голасу ад самых нізкіх басаў да найвышэйшых сапрана, на адзін і на некалькі галасоў. Гэтай разнастайнасці адпавядала дасканалае выкананне. Залу заварожвалі салісты: тэнар Ф. Пшэмелеўскі у цудоўнейшым „Ойча наш“ Ф. Дубянскага, сапрана А. Лямешка ў „Ангел вапіяшэ“ П. Часнакова, альт Я. Раппэ ў псалме „Жывы ў апецы Усявышняга“ Д. Бартнянскага, трыо басоў С. Главацкі, У. Мулярчык і С. Урбанік у „Благальнай екцінеі“ А. Аляксандрава ці бас Б. Туровіч у славутых „Многіх летах“ Д. Бартнянскага, а таксама іншыя выканаўцы, як і ўвесь калектыў у цэласці ў харавых творах. Узровень выканання быў старанны і роўны, а дырыжорскае майстэрства Ю. Шурбака ўмела вылучала на першы план найбольш каштоўныя галасавыя якасці і паасобных спевакоў, і ўсяго калектыву.

Таму і не дзіва, што слухачы доўгай авацыяй не хацелі адпусціць са сцэны калектыў, раз-пораз падносілі яму кветкі.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# З'ЕЗД КАРЭСПАНДЭНТАЎ

(Працяг са стар. 1)

тага. Дзесятая гадзіна. Зала ГП БГКТ у Беластоку пачынае памалу запаўняцца. Умовы для прыезду не надта добрыя. Праўда, пагода сёння добрая — невялічкі мароз, свеціць сонца, але яшчэ пазаўчора бушавала мяцеліца. Многа непраездных дарог. Аднак людзей збіраецца. Пасля ўступнага слова журналісткі Веры Валкавыцкай — уручэнне ўзнагарод. Прызнаны яны траім найлепшым: Аляксандру Закройшчыку з Нараўкі, Уладзіміру Сідаруку з Чаромхі і Мікалаю Няплоху з Бельска.

З'езд прадаўжаецца. З цікавым і змястоўным аглядам выступіў журналіст Янка Целушэцкі. Гаварыў пра крытыку і яе вынікі. Гаварыў, якой павінна быць гэтая крытыка, што крытыкаваць і як, якія праблемы з гэтага вынікаюць. Даў падлік крытычных матэрыялаў і колькаснае іх параўнанне з мінулым годам.

Затым адбылася жывая і цікавая дыскусія, у якой прынялі ўдзел: Эдвард Шчасновіч, Міхась Матвеюк, Уладзімір Хомік, Эдмунд Вайсковіч, Уладзімір Сідарук. Карэспандэнты абменьваліся сваімі думкамі, раскрывалі свой шлях, гаварылі аб тым, што дало ім супрацоўніцтва з „Нівай“.

— Дзякуючы „Ніве“, — гаворыць Ул. Сідарук, — навучыўся я беларускай мове. Я ж не ўмеў вогуле. Пісаў на польскай або рускай. А зараз і гавару і пішу на беларускай мове.

Закрануў таксама справу конкурсу, а канкрэтна тое, каб не кіравацца толькі і выключна колькасным крытэрыем, але і якасным, на што таксама звярнуў увагу старшыня ГП БГКТ М. Самоцік, запрапанаваўшы апрацаваць і разаслаць карэспандэнтам правілы конкурсу.

Наступнае — гэта цяжкасці з набыццём „Нівы“, што сведчыць аб яе папулярнасці.

— „Ніву“ я выпісваю ад пачатку, — гаворыць Э. Вайсковіч, — а ў гэтым годзе так выйшла, што не змог, дык паявілася праблема. Адзін тыдзень дастанеш у кіёску, а на другі зойдзеш — і ўжо разабралі. Тыраж замалы.

Парушалі таксама праблему актывізацыі дзейнасці вясковых гурткоў БГКТ.

Найбольш аднак часу прысвяцілі справам, звязаным з крытыкай. Закранаў гэта кожны з выступаючых. Знаёмячы з планам рэдакцыйнай дзейнасці,



*Першым у дыскусіі выступіў Эдвард Шчасновіч.*

галоўны рэдактар „Нівы“ даў нарыс, якой павінна быць крытыка і як не трэба ўспрымаць. Правёў таксама кароткі агляд матэрыялаў паасобных карэспандэнтаў і звярнуўся да ўсіх з просьбай рэгулярна прысылаць матэрыялы. Каб не слаць гуртам, таму што пры ўкладанні газеты бярэцца пад увагу як геаграфічны, так і тэматычны план. Немагчыма змяшчаць некалькі матэрыялаў з адной і той жа мясцовасці ці на адну і тую ж тэму. Адначасова падаў тое, што павінна быць найбольш істотнае ў кожным артыкуле ці інфармацыі, падаў пытанні, на якія павінен адказваць кожны напісаны матэрыял.

Плённай і актыўнай працы, далейшага прыязнага супрацоўніцтва ды павелічэння колькасці публікацый!

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара



*— І як тут зрабіць? — думае Эдмунд Вайсковіч.*



*Маладое папаўненне ўважна слухае сваіх старэйшых сяброў.*

 

## Адам Хмель ці Леапольд Родзевіч?

(Працяг са стар. 2)

цы мгр Іяланты Тапольскай-Главацкай, якая занялася падрыхтоўкай да бібліяграфічнай апрацоўкі кнігі Родзевіча. Аказалася, што зборнічкам Родзевіча тут ужо здаўна цікавіліся. І менавіта тут было ўстаноўлена, што ў бібліятэцы знаходзіцца кніга **з падробленай вокладкай на прозвішча Адама Хмеля.** Сапраўдным жа яе аўтарам з'яўляецца Л. Родзевіч. Калі б гэта раней не было сцверджана, зборнічак не быў бы даступным тым, хто цікавіцца Родзевічам (бо яго не было б у каталогу пад прозвішчам Родзевіча). Я. Главацкая праверыла змест VII тома прац Мовазнаўчай камісіі і аказалася, што, а як жа ж, ёсць там праца, выдадзеная А. Хмелем пад загалоўкам „Кнігі св. Аўгусціна, епіскапа гіпонскага, пра жыццё хрысціянскае", але вершаў Родзевіча там няма. Ад Я. Главацкай я таксама даведалася, што томік вершаў Родзевіча перад гэтым быў уласнасцю славутага польскага мовазнаўцы праф. Улашына, які памёр у 1956 г. у Лодзі. Ад яго кніжка і трапіла ў Нацыянальную бібліятэку. Я. Главацкая не спыняе сваіх пошукаў.

Я, бадай, прыхіляюся да меркавання, што месцам выдання кніжкі быў усё ж Мінск, дзе ў тыя часы знаходзілася заграічная рэдакцыя ЦК КПЗБ, кіраўніком якой тады з'яўляўся якраз Родзевіч. Але хто прыдумаў такую вокладку? Магчыма, што сам Родзевіч. У яго быў ужо значны выдавецкі вопыт у выпуску выдавецтваў легальных, паўлегальных і, урэшце, нелегальных. Праект вокладкі мог таксама падрыхтаваць Юльян Брун, які ў той час супрацоўнічаў з рэдакцыяй у Мінску. Гэта быў эрудыт, які грунтоўна ведаў польскае пісьменніцтва. Мог ён аблюбаваць сабе прозвішча Адама Хмеля, працы якога некалькі разоў выдавала Акадэмія навук і які ў навуковых колах быў вельмі папулярным гісторыкам і архівістам, аўтарам 237 публікацый. Такая здагадка паявілася ў мяне пад уплывам таго, што кніжка была знойдзена ў кнігазборы польскага вучонага Улашына. Брун, што з'яўляўся аўтарам кнігі „Трагедыя памылак Стэфана Жаромскага", быў вядомы як той, хто нястомна шукаў і знаходзіў доступ да сэрцаў і думак польскай прагрэсіўнай інтэлігенцыі.

**Аляксандра Бергман**

---

*) Прыгадайма тут некаторыя загалоўкі: „У вастрозе", „Палітвязень", „У дэфензіве", „Атаман Муха", „Ленін", „Песня паўстанца", „Згінуў час, калі ад веку мы ўсе спалі" і г.д.

(Працяг са стар. 1)

## 20 працавітых гадоў „ЗАХЭНТЫ"

Цяпер „Захэнта" мае пяць святліц з камплектным клубным абсталяваннем, у тым ліку з каляровымі тэлевізарамі, два клубы, тры майстэрні для мадэльшчыкаў, асобныя залы для працы мастацкіх калектываў.

На працягу мінулых 20 год жыллёвы кааператыў „Захэнта" не шкадаваў сваіх намаганняў, каб стварыць жыхарам сваіх пасёлкаў як найлепшыя бытавыя ўмовы, з кожным годам усё лепш абяспечваць іх сацыяльныя, культурныя і рэкрэацыйныя запатрабаванні. Важным дасягненнем кааператыва з'яўляецца і тое, што здолеў ён актывізаваць да самакіравання і выхаваўчай дзейнасці шырокі актыў, які налічвае дзве тысячы асоб, а таксама ўзбуджэнне сярод кватэранаймальнікаў замілавання да ладу, гаспадарнасці і культурнага сумеснага жыцця.

У сваім юбілейным годзе „Захэнта" яшчэ больш узмоцніць інвестыцыйную дзейнасць, будзе весці спаборніцтва паміж пасёлкамі: у рэалізацыі грамадскіх пачынаў, мастацкай самадзейнасці і на спартыўнай ніве. Для жыхароў будуць арганізаваны: фэсты, турыстычны злёт, краязнаўчыя і замежныя экскурсіі.

**Я. Целушэцкі**
Фота аўтара



*Першы жылы блок на пасёлку „Пяста".*

пераканаННем, баяліся, каб, выкарыстоўваючы спамянутыя спосабы, не ўвагнаць яе ў галаву. І таму звярталіся да выкарыстоўвання калу. Чалавечы кал, паводле мясцовых пераканнняў, абрыджвае хваробу, якая пасля гэтага апусціць арганізм.

Да лячэння рожы найбольш надаваліся найстарэйшы і наймалодшы ў сям'і. Магічныя спосабы дзеяння ў іх выкананні былі найбольш паспяховымі. А вось як апісвае лячэнне інфарматарка з Нарвы: „Цяпер гэтага няма. Даўней то мяне мама вадзіла. З ільну рабіла дзевяць галачак, круглыя як бульбачкі, чырвонай хусткай твар накрывала і ад грамніцы запаліць і кіне на мяне, запаліць і кіне на мяне. А яны загарацца і зараз гаснуць. Вось гэта нібы і памагло".

На аснове гэтай інфармацыі хочам паказаць сённяшняе ўспрыманне і адносіны да магічнага лячэння. Заміраe яно разам з ростам людской свядомасці. Але шмат яшчэ надалей застаецца ў кругу магічнасці. Гэта пераважна тыя хваробы, якія яшчэ поўнасцю не даследаваны. Магічнае лячэнне жыве там, дзе пакуль што бяссільная медыцына. А паспяховасць? Калі не ўдасца, дык просты спосаб тлумачэння — запозна звярнуліся да магічнага лячэння. Хвароба была ўжо раз'ярана лякарствамі і бальніцай.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

## ФАЛЬКЛОР

**СЯМЕЙНАЯ**

*Moderato*



*Я й то-біе ка-за-ла і тво-ё-му ро-ду: — Нэ хо-ді до*



*мэ-нэ, нэ ро-бі за-во-ду — ў мэ-нэ ко-са-гу нэ бу-*



*дэ, возь-мут мэ-нэ доб-ры-і лю-дэ*

*Я й тобіе казала і твоёму роду:*
*— Нэ ході до мэнэ, нэ робі заводу —*
*у мэнэ посагу нэ будэ,*
*возьмут мэнэ добрыі людэ.*
*У мэнэ посагу нэ будэ,*
*возьмут мэнэ добрыі людэ.*
*— Мніе твого посагу нэ барзо потрэба:*
*Нагородіт пан Буг з высокого нэба —*
*ты ж у мэнэ посаг самая,*
*як на нэбі зора ясная.*

*Ты ж у мэнэ посаг самая,*
*як на нэбі зора ясная.*
*— Ой, тэпэр ты кажэш, што зора ясная,*
*а потым ты скажэш: „Доля нэщчасная!" —*
*ой, нэ ты скажэш, то маті:*
*— було бэз посагу нэ браті.*
*Ой, нэ ты скажэш, то маті:*
*— Було бэз посагу нэ браті.*

Ад Надзеі Рыбачук, 1931 года нараджэння, вёска Быстры гм. Боцькі, запісаў 13 студзеня 1978 года Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## МАЙСТАР НА УСЕ РУКІ

## Сяргей Нікіцюк

Нарадзіўся ён у 1941 годзе ў Грыгораўцах і, закончыўшы пачатковую школу ў Малінніках, памагаў бацькам гаспадарыць. А калі вярнуўся з вайсковай службы, паступіў на курс трактарыстаў, а пасля працаваў у мясцовым сельгасгуртку. Праявіў ён сябе там як добры трактарыст і як чалавек, знаючы і ўмеючы належна абыходзіцца з сельскагаспадарчай тэхнікай, а калі яна псавалася, умеў рамантаваць не толькі трактар, але і іншыя машыны.

Калі Сяргей Нікіцюк ажаніўся і пачаў гаспадарыць са сваёй жонкай Валяй, задбаў адразу аб сельскагаспадарчых машынах. Купіў трактар „Уладзімірац Т-25", малацільны агрэгат, млынок-сьрутоўнік, касілку, грабілку, культыватар, сеўнік і іншыя машыны. Дзякуючы гэтай сельскагаспадарчай тэхніцы ён апрацоўвае 30 га зямельных угоддзяў.

Было б даволі цяжка Нікіцюкам, каб сам Сяргей не меў мулярска-будаўнічых здольнасцей. Сам ён змураваў сабе клуню ў 1970 годзе. Сам пакрыў яе бляхаю. Удалося зрабіць яму гэта добра, і тады сталі звяртацца да яго аднавяскоўцы, каб ён ім таксама пакрыў бляхаю будынкі.

У мінулым годзе збудаваў Нікіцюк дом. Сам рабіў фундаменты, сам змураваў сцены і таксама пакрыў дом бляхаю. Закончыць яго ў бягучым годзе. Прыгожы гэта будынак, з цэнтральным ацяпленнем, з кранамі ў хаце, з туалетам і ваннаю.

Плануе ён пабудаваць жывёлагадоўчы будынак на 15 кароў, бо ў гэтай галіне будзе спецыялізавацца. Творчая думка і дзейнасць адчуваецца ў Нікіцюка ўсюды, пры кожнай рабоце. Яна дапамагае яму належна гаспадарыць. У мінулым годзе пшаніцы ў яго выйшла



ў сярэднім 40 цэнтнераў з гектара, жыта — 25 цэнтнераў, бульбы — 250 цэнтнераў. Гадуюць Нікіцюкі 4 дойныя каровы, 4 ялоўкі, 3 мацёры, трымаюць 2 кані. Штогод здаюць на базу не менш 10 кормнікаў. Шмат таксама прадаюць дзяржаве малака.

У вёсцы кажуць, што Сяргей Нікіцюк здольны чалавек. Ад яго нічога не ўцячэ. Умее ён арганізаваць і работу, і грошы.

**М. Хмялеўскі**
Фота М. Шаховіча

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

В ы я ў л е н ч а е  м а с т а ц т в а  Б е л а р у с і, 1977, стар. 112, цана 13 зл. 10 гр.

Першы нумар вельмі каштоўнага па сваёй задуме гадавіка. Бачым тут артыкулы: М. І. Ганчароў „Гераічныя вобразы эпохі", Я. М. Сапухін „Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і мастацкія промыслы Беларусі", В. Ф. Шматаў „З кагорты першых" пра таленавітага беларускага мастака А. А. Астаповіча і шэраг іншых цікавых публікацый.

**Жук Алесь,** З о р к і  н а д  п а л і г о н а м, 1977, стар. 192, цана 4 зл. 40 гр.

Аповесць і некалькі апавяданняў пра нялёгкую рамантыку службы ў сучаснай арміі. Цікавая, свежая проза.

**Бензярук Расціслаў,** В а в ё р ч ы н а  д з я к у й, 1975, стар. 38, цана 1 зл. 60 гр.

Зборнік кароценькіх апавяданняў пра розныя цікавыя здарэнні ў прыродзе і зносінах з ёю дзяцей, а таксама некалькі займальных казак. Для дзяцей малодшага школьнага ўзросту.

**Дзеружынскі Авяр'ян,** К о н і к і — б у д а ў н і к і, 1977, стар. 48, цана 3 зл.

Зборнік вершаў для дзетак-малалетак пра навакольны свет, як пра верабейкаў і сінічак, так і пра трамвайчыка-незасыпайчыка. Каляровыя малюнкі.

**Чарняўскі Мікола,** З а л а т а я  н і в а, 1977, цана 1 зл. 60 гр.

Вельмі прыемная кніжачка для дзяцей малодшага школьнага ўзросту пра living… 

(мг)




*Праўленне ГС у Орлі заснула. Бо абавязалася, што ў чацвертым квартале 1977 года адкрые краму ў вёсцы Спічкі. Але да сённяшняга дня не адкрыла, хаця і ёсць каму стаяць за прылаўкам.*

*Прачніся, праўленне ГС у Орлі! Колькі можна спаць?*

**Наглядчык**



 




Заказвала Данута Дзем'янчук з Беластока.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Жонка падала на мужа ў суд, каб плаціў аліменты для дзіцяці. Пасля гэтага муж падаў у суд на развод. Суд спыніў справу аб аліментах, і муж задаволены, што не трэба плаціць. Суддзя растлумачыў, што не могуць адразу весціся дзве справы: наконт аліментаў і разводу. Муж хваліцца, што нават калі не атрымае разводу, то будзе цягнуць справу два гады і не будзе плаціць аліментаў. Ці ёсць магчымасць атрымаць ад мужа аліменты ў час працэсу аб разводзе, а калі не, то ці можна будзе пасля патрабаваць пратэрмінаваных аліментаў за час, у якім вёўся працэс аб разводзе?

АДКАЗ: Па закону ў час працэсу аб разводзе не можа весціся асобная справа аб аліментах. Калі б гэткая справа апынулася ў судзе, суд судавядзенне спыняе. Гэта не значыць, што аліменты за час, у якім вядзецца справа аб разводзе, не належацца. Па прапанове жонкі суд у справе аб разводзе можа абавязаць мужа, каб ён дапамагаў заспакойваць патрэбы сям'і. Пастанова суда ў гэтым прадмеце важная на час працэсу аб разводзе. Калі суд дасць развод, то ў рашэнні засудзіць адначасова аліменты. Калі б суд разводу не даў, то жонка можа падаць заяву з просьбай, каб весці далей справу аб аліментах. Суд, як правіла, засуджвае аліменты ад даты, у якой пададзена ў суд прашэнне аб аліментах. Значыць, калі б муж не плаціў аліментаў у часе судавядзення ў справе аб разводзе, мусіў бы заплаціць за цэлы гэты час, хоць бы справа аб разводзе вялася і два гады.




Дарагое Сэрцайка! Два гады назад я закончыла сярэднюю школу і тады на стаднёўцы пазнаёмілася з Міркам. Ён таксама тады канчаў тэхнікум. Пасля ён стаў на працу, а я пайшла вучыцца ў паматуральную школу. І сябравалі мы надалей, бо пакахалі адзін другога. Думалі, пажэнімся, калі я вучобу закончу. Мірэк часта наведваў мяне дома, бацькам ён таксама падабаўся. Але вось сябры яго мне не падабаліся. І гаварыла я яму аб гэтым. Але ён усё іх апраўдваў. Гэта хлопцы, якім працаваць не хацелася, затое пры кіёсках з півам іх можна ў любую пару спаткаць. Ужо і Мірэк пачаў час ад часу падхмяляцца. І ўрэшце яны аграбілі краму. Разам з імі быў і Мірэк. І пайшлі ўсе за краты. Тады бацькі накінуліся на мяне, што са злодзеем звязалася. Загадалі парваць з ім з месца. Мне і самой было сорамна, бо жывем мы ў малым гарадку, дзе людзі амаль як на вёсцы знаюцца, і гэткая вестка імгненна абляцела ўвесь гарадок. Але парваць з Міркам я не магла. Калі Мірэк сядзеў у турме, я пакрыёму наведвала яго. Урэшце вярнуўся дамоў. Стаў ізноў на працу. Мы спатыкаемся, але аб гэтым бацькі не ведаюць. Я ўжо школу канчаю. Мы ж планавалі пажаніцца. І Мірэк гэтага тэрміну трымаецца. Як жа я заяўлю аб гэтым бацькам? Ды ці ж адна памылка ўжо перакрэслівае чалавека на ўсё жыццё?

Ірэна з С.

Ірэна! Мірэк папаў у неадпаведную кампанію, а, як кажуць, хто з кім трымаецца, ад таго й набіраецца. Зрабіў дрэнна, адседзеў заслужаную кару, але гэта не абазначае, што ўжо астаўся ён злодзеем на ўсё жыццё. Гэта можа быць яму навучкай на будучыню. А бацькам не дзівуйся. Ды са шлюбам не спяшайся. Мусіць нейкі час прайсці, каб зацерлася ў памяці бацькоў дрэннае аб Мірку. А ён павінен пастарацца, каб заслужыць у іх на давер.

**Сэрцайка**

## Вер-не-вер

Астроне! Мне прыснілася, што ў мяне дзень нараджэння. Да мяне прыйшлі мае сваякі (сястра з братам) і адзін хлопец. Думаю: з кім жа я буду гуляць? Бадай з гэтым хлопцам. А дзяўчына — са сваім братам, хаця не выпадае, каб сястра гуляла з братам. Кожны з іх прынёс мне тры гваздзікі. Кветкі былі чырвоныя і добра расцвіўшыя. Вельмі прыгожыя! І я паставіла іх у вазачку. З крэсла пачала зімаць вопратку сястры, яе няма ад часу канікул. Паехала і не магла схаваць, а цяпер я мушу ўбіраць, якраз тады, калі ў мяне госці. На гэтым я прачнулася.

Другі мой сон зусім іншы. Я баюся, каб не было чаго кепскага. Мне трэба было грошай, і я пазычыла іх у сваёй цёткі. Яна замест грошай дала мне долары. Яны былі чырвоныя і зялёныя. Дае 10 долараў і я кажу ёй, будзе гэта тысяча. Пасля я карміла курэй. Сыпала ім авёс. На падворку стаяў мой дзядзька, брат і сястра. Яны глядзелі, як я кармлю курэй. З поля прыйшла мая мама. Яна была задаволена, што я іх накарміла. Я цешылася, што атрымала долары. Думаю, што мая цётка не заўважыла, што гэта долары. Я ляжала ў пасцелі апранутая. З кішэні пачала вымаць долары і аддала іх цётцы. Яна сапраўды не заўважыла, што гэта долары, і за іх купіць што-небудзь сваёй дачцэ. У пакоі, дзе я ляжала, на стале была адбітка 80 долараў. Каб іх можна было зняць са сталі! Адна палавіна яе была блакітная, а другая — цёмназялёная. Гэта дзіўна, каб так выглядалі долары і былі такой велічыні. Блакітны колер прыгажэйшы ад зялёнага і лепш было б, каб яны цэлыя былі блакітныя. Гэта нічога, што я аддала цётцы долары. Каб не аддала, было б гэта несправядліва... Што могуць абазначаць мае сны?

Галена з Бельска.

**Галена з Бельска!** Твае сны абазначаюць, што будзе добры паварот у тваіх справах. Аб гэтым сведчаць прыгожыя чырвоныя гваздзікі, якія прынеслі табе сваякі на дзень нараджэння. Аб поспеху ў тваіх справах сведчыць і тое, што ты звярнула цётцы атрыманыя долары. Магчыма, гэта будуць нейкія фінансавыя прыбыткі, бо ты ж у сне карміла курэй. Колеры, якія ты бачыла ў сне, асабліва дамінуючыя блакіт і зелень, сведчаць аб тваёй маральнай чысціні і шчаслівай будучыні.

**Астрон**



*На сонечным выпусце.* *Фота М. Гайдука.*

## Куток практычных ведаў




# Цыбуля

### САЛАТА З ЦЫБУЛІ

На 3-4 цыбуліны трэба ўзяць адзін яблык, 2 лыжкі алею, соль, цукар па смаку, лімонную кіслату.

Абабраўшы цыбулю парэзаць кожную на восем частак, палажыць у невялікую колькасць пасоленай і з лыжачкай цукру вады, варыць пару мінут, а пасля адцадзіць і астудзіць. Да цыбулі дадаць сцерты на тарцы яблык і спырснуць салату вадкай лімоннай кіслатой. Дадаць соль і цукар, паліць алеем. Салата будзе яшчэ смачнейшая, калі пасыпаць яе зверху вараным пасечаным яйцом ці жоўтым сырам.

### СОУС З ЦЫБУЛІ

На 2-3 цыбуліны трэба ўзяць лыжку тлушчу, 2 чайныя лыжачкі мукі, 2 шклянкі булёну ці навару з гародніны або нават вады і тады костку булёну з птушак, соль, лімонную кіслату па смаку. З тлушчу і мукі падрыхтаваць даволі цёмную засмажку, дадаць да засмажкі дробна нарэзаную цыбулю і яшчэ раз усё добра падсмажыць. Развесці засмажку халодным булёнам, і, памешваючы ад часу да часу, крыху паварыць соус, так, каб цыбуля крыху змякла. Тады запраўіць яго соллю, цукрам і лімоннай кіслатой, а для прыгожага колеру і характэрнага смаку можна дадаць да соусу лыжачку кармелю. Соус з цыбулі падаюць да бульбяных катлетаў, да варанага мяса ці каўбасы.

### ЦЫБУЛЯ З ГРУДЗІНКАЙ

На 3-4 цыбуліны трэба ўзяць 10 дэкаў грудзінкі або саланіны, 2 яблыкі альбо дзесятак штук сушаных сліў, паўшклянкі памідорнага перацёру, соль, сухі зялёны укроп.

Грудзінку ці саланіну дробна нарэзаць і падсмажыць на патэльні. Абабраную цыбулю нарэзаць на скрылёчкі. Падсмажыць крыху на тлушчы, а пасля дадаць сцертыя на тарцы яблыкі ці намочаныя перад гэтым слівы, памідорны перацёр ці канцэнтрат, заправіць па смаку соллю і ўкропам. Разам не надта доўга тушыць усё гэта. Падаваць гэту гарачую страву з цыбулі да хлеба ці несалодкіх булачак.

**Гаспадыня**




Лена ўжо выйшла з дзвярэй на ганак, але марак зноў спыніў яе:

— Кім раней працавала?

— Настаўніцай! — адказала Лена. Як гэта ў яе вырвалася, яна сама не разумела.

— Настаўніцай? — Ён зноў агледзеў яе, на гэты раз недаверліва. — Дзе ж?

Лена адчула, што ўпэўненасць пакідае яе.

— У Марыупалі. Наогул я адэсітка, але была там у эвакуацыі, — сказала яна, імкнучыся хутчэй пайсці ад гэтага дзіўнага чалавека, які прычапіўся да яе з пытаннямі.

Але ён пайшоў побач з ёю.

— Дык чаго ж ты не звернешся ў школу?

— Ну што вы! У Адэсе ўладкавацца ў школу немагчыма. Я шукаю любую работу.

— А бацькі табе не дапамагаюць?

— У мяне нікога няма.

Ён распытваў яе падрабязна, але ў яго тоне была добразычлівасць, і гэта прымушала Лену яму адказваць, да таго ж, мяркуючы па марской форме, ён працаваў у порце, і такое знаёмства магло быць карысным.

— Як цябе завуць?

— Лена Бутэнка.

— Чаму ж ты ўцякла з Марыупаля?

— Я не ўцякла. Да горада набліжаўся фронт, і жыхарам загадалі эвакуіравацца. А я адэсітка. Куды ж мне было падзецца, прыехала ў Адэсу.

— Цябе тут прапісалі ўжо?

— Так, вядома, — і яна працягнула яму пашпарт.

Ён доўга і ўважліва разглядаў яе фатаграфію, быццам хацеў пераканацца, ці не прыклеена да чужога пашпарта.

— Ты, напэўна, дзяўчына энергічная, — сказаў ён нарэшце, — магу табе дапамагчы. Я інжынер, завуць мяне Аляксандр Васільевіч, прозвішча — Ткачэвіч, — і пасля невялікай паўзы дадаў: — У прыбіральшчыцы пойдзеш?

— Пайду, — з гатоўнасцю сказала Лена.

— Ёсць у мяне яшчэ адна пасада. Рассыльнай у дыспетчарскую...

— Пайду! — радасна паўтарыла Лена.

Шчаслівая выпадковасць! Яна іменна ўявіла сабе, як на законнай падставе, не выклікаючы ні ў каго падазрэнняў, з пакетамі ў руках хадзіць па ўсім порце, — што можа быць лепш?!

— Але з гэтым давядзецца пачакаць, — закончыў Ткачэвіч. — Адна бабуля працуе, але, напэўна, хутка не вытрымае. Ад беганіны зусім развальваецца. Давядзецца табе пакуль крыху з мятлой пахадзіць.

Лена павярнула на вуліцу Пастэра і запаволіла крок. Можна не спяшацца ў такі сонечны дзень. Тым больш, што ў яе добры настрой і яна з задавальненнем і палёгкай думае аб тым, што нарэшце зроблен першы важны крок да пастаўленай мэты.

### РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

*БАРАЦЬБА РОЗУМАЎ*

Праз два дні Лена ўжо атрымала пропуск у порт, на якім было напісана, што яна з'яўляецца служачай „Крыгсмарынэ Зээтранспартштэле", што ў перакладзе з нямецкай мовы азначала „Упраўленне ваенна-марскіх перавозак".

Яе абавязкі былі не такія складаныя, колькі стамляючыя. З раніцы і да вечара ў брыгадзе чорнарабочых яна падмятала склады, дапамагала грузіць збожжа, прыбірала і мыла падлогу ў канторы ўпраўлення.

Адэскі порт размяшчаўся ўздоўж заліва на шмат кіламетраў. Адступаючы, савецкія войскі яго амаль не разбурылі, спадзеючыся хутка вярнуцца.

Заняўшы Адэсу, гітлераўскія ўлады аддалі загад усім партавікам выйсці на работу. Але большасць партавікоў эвакуіравалася і пайшла з арміяй. Немцам давялося набіраць новы штат.

Портам цяпер распараджаўся Папеску. На ўсе важныя пасады ён паставіў спецыялістаў, якія прыбылі з ім, і тых рускіх, хто праявіў жаданне служыць пад яго кіраўніцтвам. Сярод іх быў інжынер Ткачэвіч. Ён хутка пайшоў на павышэнне, яго рэпутацыя здавалася Папеску бездакорнай. Тым больш, што Ткачэвіч прадставіў неабвержныя доказы таго, што ў гады грамадзянскай вайны служыў афіцэрам ва Урангеля, праследаваўся за гэта Савецкай уладай і, натуральна, пры першай жа магчымасці перайшоў на бок новай улады.

Ткачэвіч быў строгі з падначаленымі і праяўляў належную стараннасць у выкананні загадаў начальства. І цяпер, калі Лена здалёк бачыла яго то на адным, то на другім прычале, ён здаваўся ёй важным і недаступным.

І ўсё ж, зрэдку сустракаючыся з ім, — гэта звычайна здаралася ў тыя дні, калі яна прыбірала кантору ўпраўлення — яна заўсёды ўсміхалася яму як старому знаёмаму, а ён, сухавата кіўнуўшы, праходзіў міма. Сваё абяцанне перавесці яе на іншую, больш лёгкую работу ён быццам забыў, а ёй было нязёмка яму напамінаць. Бо ён і так шмат для яе зрабіў.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Першая сесія

Урачыстай была першая сесія Гарадской рады нарадовай горада Гайнаўкі. Старшынстваваў на сесіі найстарэйшы радны Эдмунд Вайсковіч, які прыняў прысягу нававыбраных радных, што будуць працаваць для дабра краіны з усіх сіл. Былі ўручаны дзяржаўныя ўзнагароды. Залаты Крыж Заслугі атрымаў Уладзімір Філонюк; Сярэбраны Крыж Заслугі — Сцяпан Пшыбыш, Ян Кастэцкі, Леў Кучкін; Бронзавы Крыж Заслугі — Вера Хадакоўская, Міраслаў Бараноўскі.

Сярэбраныя адзнакі „Заслужаны для Беласточчыны“ атрымалі: Іван Бура, Казімір Бяляўскі, Караль Клоза, Галіна Глушык, Станіслаў Сакалоўскі, Казімір Рох і Уладзіслаў Красоўскі.

Старшынёй новай Гарадской рады нарадовай быў выбраны Ян Войцюк, намеснікам — Уладзімір Паскробка і Уладзімір Філонюк.

Першая сесія Гайнаўскай МРН прыняла пастанову, што горад прыступіць да конкурсу „Горад — майстар гаспадарнасці“ за 1978 год.

**Вірскі**

## Актыўная арганізацыя

У Шудзялаве адбыўся агульны сход членаў Саюза барацьбітоў за мір і дэмакратыю. Арганізацыя налічвае 190 чалавек. Сход выбраў дэлегатаў на ваяводскі з'езд, які адбудзецца ў маі. Дэлегатамі ад нашай гміны з'яўляюцца Эдвард Чарэмха са Слойкі і Аляксандр Кавальчук з Сукавіч.

На сходзе было прынята рашэнне, каб ва ўсіх школах гміны члены ЗБоВіД правялі гутаркі на тэму II сусветнай вайны і Чырвонай Арміі.

**Гіль**

## ГАСПАДЫНЯ НА ЎСЁ

Сёлетняя зіма, асабліва ў месяцы лютым, засыпала свет вялікім снегам. У Нараўцы сяляне абавязаны самі чысціць ходнікі і вуліцы. Трэба сказаць, што не ўсе салідна выконваюць гэтае заданне.

Прыкладам уласцівага падыходу да справы з'яўляецца Марыя Стульгіс з вуліцы Міцкевіча. Рана-раненька яна заўсёды чысціць свой тратуар і пасыпае пяском. Варта з гэтай жанчыны браць прыклад.

**А. З.**

## ВЕЧАР БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ Ў НАРАЎЦЫ

Зіма. Цікавая пара года. На вёсках людзі маюць больш часу адпачываць. І вось, як штогод, у клубах і святліцах, школах і прыватных хатах гучаць беларускія песні. Песня яднае людзей. Сходзяцца людзі, спяваюць і рыхтуюцца да конкурсу.

Прыйшоў дзень гміннага агляду. У гмінным цэнтры культуры вечар беларускай песні. Праграма надта цікавая. Прыгожа спяваюць жанчыны з Міклашэва — 8 асоб. Нядаўна адкрыты клуб і ўжо якія вялікія дасягненні! Гэты жаночы калектыў паедзе на раённы агляд.

Вельмі добра спявала таксама Аляксандра Бонкард са Стачка, якая штогод удзельнічае ў аглядах і займае добрае месца.

Люба Зданоўская з Нараўкі дала поўны канцэрт. Выступала сола з мандалінай. Варта адзначыць вялікую дбайнасць кіраўніцтва гміннага цэнтра культуры ў Нараўцы пра беларускую песню.

**А. З.**

## ЗБІРАЕМ МАКУЛАТУРУ

Кожны год вучні збіраюць макулатуру. Вучні Бельскага беларускага ліцэя сабралі за 1977 год яе вельмі многа, аб чым пісала ўжо „Ніва“. Міжваяводскі камітэт школьнага збору макулатуры прызнаў дзесяці вучням нашай школы ўзнагароды. Дырэктар школы мгр Аляксей Карпюк уручыў дыпломы, значкі і рэчавыя ўзнагароды гэтым вучням. Залаты значок атрымала Ніна Хаманская, сярэбраны Мікалай Бабулевіч. Усе іншыя атрымалі бронзавыя значкі. Гэта: Тамара Ільяшук, Раіса Кабрынец, Валянціна Лопух, Яўгенія Паўлючук, Марыя Якубюк, Людміла Томчук, Славамір Сахарэвіч, Вера Якімюк.

Варта сказаць, што зборам макулатуры ў нашай школе кожны год займаецца мгр Марыя Красоўская. У гэтым годзе мы таксама збіраем макулатуру і пастараемся сабраць яе як мага больш.

**Яўгенія Манаховіч,**
Бельскі беларускі ліцэй

## ВУЧАЦЦА СЯЛЯНСКАЙ ПРАФЕСІІ

У Дубічах Царкоўных распачаўся курс па праграме кваліфікаванага гаспадара. Заняткі адбываюцца тры разы ў тыдзень, вечарамі, у зале ГОКу. На заняткі ходзіць больш як 30 асоб з вёсак: Дубічы Царкоўныя, Тафілаўцы, Грабавец. Тэарэтычныя даклады і практычныя заняткі вядуць усе працаўнікі сялянскай службы Дубіцкай гміны. Кіраўніком з'яўляецца Раіса Старасельнік.

Дубіцкая гміна намерана ў кароткім часе абучыць усіх сялян сельскагаспадарчай прафесіі. Сярод выпускнікоў такіх курсаў знойдзецца не мала асоб, якія захочуць далей вучыцца.

**М. Панфілюк**

## ШКАДА ГРОШАЙ

У гаспадарцы Ермалая Быщчука з Кузавы вецер сарваў дах з хлява. Шчыт паваліўся на зямлю, а кроквы і дахоўка засталіся на столевых дошках. Гаспадар заявіў аб гэтым у гмінную ўправу ў Чаромсе. Праз два тыдні прыехаў на месца працаўнік ПЗУ з Гайнаўкі. Пратакол пісаў каля трох гадзін. Аглядаў хлеў з усіх бакоў, мерыў яго, нарэшце сказаў, што, пэўна, нічога не выйдзе з кампенсацыі за шкоды, бо дах быў гнілы і таму заваліўся. Такое рашэнне і прыслалі з ПЗУ селяніну.

Е. Быщчук нічога не кранаў з месца. Усё засталося паваленае да сённяшняга дня. А ПЗУ складчыну атрымлівае ж ад гаспадара. Ці ж гэта не крыўдна?

У рашэнні ПЗУ напісана, што буры не было, бо працаўнік, які быў на месцы, не пацвердзіў паламаных дрэў у наваколлі, але трэба сказаць, што працаўнік ПЗУ не бачыў нават тых крокваў, якія ляжалі, заваленыя снегам. Недакладнае афармленне пратакола было прычынай, што селянін кампенсацыі не атрымаў.

**(к-ус)**

## ЦЁМНА НА ПЛЯЦЫ

Цёмна на пляцы мяшальні кармоў у Відаве. Гэтая мяшальня ў Відаве працуе ўжо больш як 10 гадоў і вырабляе розныя мяшанкі. Яна з'яўляецца адной з перадавых мяшальняў у ваяводстве. Але выступае тут адна адмоўная з'ява. Пляц, на якім працуе мяшальня, агорнуты цемрай. З 15 электрычных стаўбоў, на якіх павінны гарэць лямпачкі, толькі на двух тыя лямпачкі гараць.

Былі ўжо афіцыйныя просьбы да ГС ў Бельску, каб папоўнілі асвятленне, але дагэтуль нічога не зроблена. Стораж асабліва наракае, што не асветлены склады і галоўная брама.

**А. Гаўрылюк**

## ПАРНАСІК
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### БАЛЬ

*Чатырнаццаты студзень, год семдзесят восьмы,*
*Пагодні ёсць вечар з марозам малым,*
*І вецер не дуе, як дуў яшчэ ўчора,*
*Такую пагоду мы сёння хвалім.*
*Бо мы, што паходзім з зямлі беластоцкай,*
*Расстаўшыся з ёю, ў Варшаве жывём.*
*Вялікае свята мы сёння святкуем —*
*Ў Палацы культуры вітаць яго йдзём*
*З Алей, з Маршалкоўскай, па Пляцы дэфіляд —*
*Напрамак усе маем сёння адзін:*
*К Палацу культуры на баль навагодні,*
*Які распачнецца у дзевяць гадзін.*
*Таварыства наша, то ёсць Беларускае,*
*Такую магчымасць дае кожны год.*
*Тут могуць спаткацца сябры і знаёмыя,*
*Пець родныя песні, мець многа сяброў.*
*І вось мы на зале пад імем Складоўскай,*
*Дзе будзем ўсю ноч піраваць,*
*А тут і аркестр інструмент ужо строіць,*
*Як бач і пачне зараз граць.*
*Любуемся залай, прыгожа прыбранай,*
*Над намі балоны, вянкі,*
*А боты падлогі не могуць трымацца,*
*Бягуць, як па лёдзе канькі.*
*Сягоння нас будзе пяць пар пры століку,*
*Пяць пар падляшукаў, пяць пар землякоў,*
*Якіх добра ведаюць сцены палаца,*
*Бо песні іх слухалі многа разоў.*
*А вось і наш столік, стаіць першы з краю,*
*Высунуты ў бок із радкоў,*
*Як многа прастору мець сёння тут будзем,*
*Такога не мелі мінулых гадоў.*
*А гэта длятога, што сёння ў двох залах*
*Мы будзем год новы вітаць,*
*Ў двох залах і танцы наладзілі тожа,*
*У кожнай аркестр будзе граць.*
*Сядзім пры стале ўсе, ніхто не спазніўся,*
*Не трэба нікога чакаць,*
*Антоні падносіць бутылачку ўгору*
*Й кілішкі пачаў наліваць.*
*Спачатку на зале не чулася спеву,*
*Аркестр адзываўся адзін,*
*Радное сяло пачалі ўспамінаці*
*Дзесь так ў адзінаццаць гадзін.*
*І вось — паплылі ручнікі па рацэ,*
*Што Лёне упалі у воду,*
*А там пад сцяной заспявалі аб тым,*
*Як гусі ляцелі із броду.*
*Збліжаецца поўнач, яе ўжо чакалі,*
*На сталах шампаны стаяць,*
*Настрой зусім іншы, які быў дагэтуль,*
*А вось і аркестр скончыў граць.*
*І месца аркестра заняў цяпер Віктар,*
*Сакратар Таварыства — Швед.*
*Ад імя БГКТ жадаў ён паспехаў,*
*Жадаў усім шчасця, наш любы паэт.*

**В. Данілюк**

## Па напільнікі ў Рыбалы

„Па напільнікі ў Гарадок“ — пад такім загалоўкам разгарнулася калісьці ў „Ніве“ дыскусія пра напільнікі і іншыя дробныя ды надта патрэбныя рэчы, як, напрыклад, завесы для вокан ці сталярскія алоўкі.

Цяпер я смела магу напісаць: чытачы, едзьце па напільнікі ў Рыбалы! Бо напільнікаў у Бельску і цяпер днём з агнём не знойдзеш, а ў Рыбалах заўсёды можна іх купіць. Я паехаў і купіў. У рыбалаўскую краму пастаўляе тавар заблудаўская ГС.

**Міхал Кірылюк**

## Каб не загінула мінулае

У Дубічах Царкоўных у зале ГОКу адбылося цікавае музычнае мерапрыемства: сустрэча харавых жаночых калектываў. Сустрэліся калектывы з вёсак Арэшкава і Вітава Дубіцкай гміны. Спявалі яны беларускія народныя песні. Але рэкорд папулярнасці пабіла салістка з Дубіч Царкоўных Люба Шварц-Сабалеўская, якая прымае ўдзел у конкурсе „Беларуская песня“.

Усе ўдзельнікі атрымалі ўзнагароды. Зала была бітком набіта гледачамі.

Наш дырэктар ГОКу Грыша Шварц стараецца, каб не загінулі народныя песні. Гэта па яго ініцыятыве адбыўся такі вечар.

**М. Панфілюк**

## Памагаюць звярам

Паляўнічыя гурткі памагаюць звярам перажыць найгоршую пару года. Яны наладжваюць спецыяльныя шалашы, дзе выкладаюць сена і салому. Прывязваюць снапкі саломы да дрэва, а птушкам сыплюць паслед і вешаюць спецыяльныя кармушкі.

У Галадах гэтай справай найбольш займаецца Мікалай Кудэрскі, які сам з'яўляецца паляўнічым.

**(В)**

## У бібліятэцы

Бібліятэка ў Грэдалях разам з сельскагаспадарчай службай гміны Орля арганізавала ў бібліятэцы ў Грэдалях курс па сельскай гаспадарцы. Даклады спадабаліся ўдзельнікам курсу і далі нямала карысці.

**Восень**

## Спулдзельчы банк працуе без манк

Сёння хачу коратка расказаць пра працу шудзялаўскага спулдзельчага банка. Даўней шудзялаўскі СОП быў філіялам крынкаўскага СОПу. Потым стаў самастойнай установай і заданне яго — служыць сялянам. Спулдзельчы банк дае пазыкі на розныя гаспадарчыя патрэбы, прымае таксама ўзносы сялян на ашчадныя кніжкі СОП.

Першы план узносаў разлічваў на 3 мільёны злотых. Кіраўнік думаў, як гэты план выканаць. Аказалася аднак, што план выканалі, а на другі год перавыканалі план узносаў у два разы.

У 1977 годзе сялянскіх узносаў на бестэрміновых кніжках (на 3 працэнты) было 15 мільёнаў зл., а на кніжках тэрміновых (на 2,3 гады, на 4 і 5 працэнтаў) было 12 мільёнаў. Разам узносы сялян у шудзялаўскім СОПе дасягнулі 27 мільёнаў зл. Але гэта яшчэ не ўсё, бо многія кладуць свае грошы на кніжкі ПКО, а яшчэ іншыя ашчаднасці хаваюць па хатах. Многія зусім грошай не адкладаюць, а купляюць дзецям таксоўкі, будуюць хаты. А кажуць людзі — кепскія часы...

На сходах спулдзельчы банк прадставіў статыстыку, хто за 1977 год на якую суму прадаў сельскагаспадарчых прадуктаў. Многія гаспадары за гэты год прадалі дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў на суму 70-80 тысяч зл., але ёсць гаспадары, якія дасягнулі 100 тысяч, напрыклад, Булатэвіч Міхал з калоніі Клін у гміне Шудзялава.

**Гіль**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ПАКРЫЎДЖАНЫЯ ВУЧНІ“, „Ніва“ № 5/1144 ад 29 студзеня 1978 года.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI URZĄD POCZTY DZIAŁ KONTROLI I REWIZJI W BIAŁYMSTOKU.**

Wojewódzki Urząd Poczty w Białymstoku przeprowadził postępowanie wyjaśniające na okoliczność nie doręczenia 13 egzemplarzy tygodnika „Niwa" uczniom Szkoły Podstawowej w Odrynkach, zamawianych przez doręczyciela Urzędu Pocztowo-Telekomunikacyjnego w Narwi na pierwszy kwartał 1978 roku i ustalił co następuje:

Złożyło się na to przeoczenie doręczyciela, który przy rozliczaniu się z przyjętej prenumeraty nie przekazał dowodu przyjęcia na te 13 egzemplarzy „Niwy". Z kolei UP-T w Narwi nie dokonał zamówienia na nie w Ekspedycji „Ruch" w Hajnówce.

Brakujące numery tygodnika „Niwa" doręczyciel kupował w kiosku „Ruch" i dostarczał prenumeratorom. Tak było w miesiącu styczniu br. Na luty i marzec brakujące 13 egzemplarzy zostały zamówione przez tamtejszy urząd pocztowo-telekomunikacyjny i prenumeratorzy otrzymują je bez żadnych zastrzeżeń.

Zainteresowanych tą sprawą nauczycieli i uczniów przeproszono.

Pracownikowi poczty obsługującemu mieszkańców wsi Odrynki została zwrócona uwaga służbowa z uprzedzeniem, aby podobne wypadki nie miały miejsca w przyszłości, ponieważ będą wyciągnięte surowsze konsekwencje służbowe.

**Zastępca Dyrektora WUP**
**Leon Prokopowicz**




**(ус).** Адносна заметкі „І дзе тут праўда?“. Паколькі гутарка ідзе пра вельмі невялікую розніцу ў суме, не будзем справу ўзнімаць. Сачы, ці не будзе большай розніцы.

**Дзеці з Вулькі Тэрахоўскай.** Скардзіцеся на дрэнны давоз вас у школу ў Чаромху. Вы не падпісалі свайго пісьма — гэта асекуранцтва, і мы ў праве не займацца ананімамі, аднак праверым вашу скаргу і зацікавімся апісанымі фактамі.

**А. З.** Здымак, які вы прыслалі, на жаль, не апублікуем, бо слабы тэхнічна.

**Ян Савіцкі.** Верш „За Радзіму“ надрукуем у „Парнасіку“ скарочаны.

**Э. Ш.** Вашых назіранняў аб працуючых на станцыі Генююшы не апублікуем. Тэма не падыходзіць.

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruch", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# Цяжкі дзень

На работу Пішук спазніўся. На паўгадзіны. Шпаркім крокам увайшоў ён у кабінет, крыкнуўшы мімаходам сваё звычайнае „Добры дзень!“, сеў у крэсла за сваім пісьмовым сталом і выцягнуў з партфеля каляровыя алоўкі. На яго твары з'явілася цвёрдая рашучасць наверстаць страчаны працоўны час.

— Званіў табе нехта, — пачаў адзін з супрацоўнікаў.

— Хто? — Пішук адклаў убок паперы.

— Не ведаю.

— Мужчына ці жанчына?

— Мужчына.

Пішук на момант заплюшчыў вочы, разважаючы, хто б гэта мог быць.

— Ён што-небудзь сказаў?

— Так. Спытаў, ці ёсць таварыш Пішук.

— Больш нічога?

— Не. Толькі яшчэ: „Тады прабачце, калі ласка“.

Пішук пачаў перабіраць па памяці сваіх знаёмых. Грыша — адпадае. Гэты ніколі не просіць прабачэння. Алесь таксама не вельмі раскінецца на ветлівасць. Тады, можа, Сідар? Ён набраў яго тэлефонны нумар.

— Ты мне нядаўна не званіў?

— Не, не званіў. Прабач, брат, спраў па горла.

Тады, магчыма, Павел? Тэлефон яго быў заняты. А што, калі Сяргей?

— Алё, Сяргей? Ты мне сёння часам не званіў?

Той буркнуў у трубку нешта незразумелае. Значыць, не. Адарваў, відаць, толькі ад спраў.

Пішук вырашыў званіць усім у алфавітным парадку. Ён разгарнуў свой блакнот і пачаў з А. Акуловіч не званіў. Амячук быў у камандзіроўцы, а Алтынаў хворы.

Перабраўшы ўсе прозвішчы аж да літары Г, ён так і не даведаўся, каму належаў ранішні тэлефонны званок. Перад самым абедам ён спыніўся на літары І.

Пасля абеду пошукі працягваліся. Быў у яго адзін знаёмы на літару К, але званіць яму Пішук не адважыўся, бо ўжо даўно пазычаў у таго грошы.

Да канца працоўнага дня ён так і не адолеў увесь алфавіт і яшчэ, пэўна, з паўгадзіны пасля работы карпеў, каб дайсці да літары Я. Усё было дарэмна.

Стомлены, з дрэнным настроем прыплёўся ён дахаты. Ноччу ён доўга варочаўся ў ложку, тоўк жонку ў бок, пакуль тая з абурэннем не прашыпела:

— Чаго гэта табе сёння сну няма?

— Чаго, чаго! Увы! — цэлы дзень пратырчэць ля тэлефона, нават за справу не было калі ўзяцца! — прастагнаў ён слабым голасам і адвярнуўся да сцяны.

**Мікола Ляшчун**



*Без слоў.*

# НІЎКА



— — —

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Шатландзец разам з сям'ёй прыехаў у Парыж.

— Колькі каштуе праезд ад вакзала да Эйфелевай вежы? — спытаў ён у таксіста.

— З вас з жонкай я вазьму 30 франкаў, а дзяцей павязу бясплатна, — адказаў той.

— Дзеці, сядайце ў машыну, — загадаў шатландзец, — а мы з маці дагонім вас электрычкай.

✲

Шэф робіць візіт свайму слухачаму:

— Я падзараваў, што вы сімулюеце, Сміт, але цяпер я з задавальненнем канстатую, што вы сапраўды сур'ёзна хворы.

✲

— Я думаю, з мяне вы павінны браць за стрыжку танней: у мяне ж амаль не засталося валос.

— Танней?! А вы не ўлічваеце, што мы патрацілі больш часу на пошукі вашых валос, чым на самую стрыжку?

*З САВЕЦКАГА ГУМАРУ*



*Калі „морж“ — вялікі начальнік.*

**ГУМАР 3**

### БЕЗ КАНЦА

Спыталі аднаго задрыпанца, колькі ён можа выпіць гарэлкі. А ён падумаў ды й пытае:

— А ў свой час ці нашча?

— Нашча, — кажуць.

— А з закуссю ці без яе?

— З закускай!

— А за грошы ці дармова?

— Бясплатна!

— О! — кажа задрыпанец, — калі так, то — без канца!



**...Радавацца ці засмучацца — бачу сябе ў крывым люстэрку лепшым, чым я ёсць...**

### ХАЙ ЖУЕ

— Наш пастух, як карова, — жвачку жуе, — паскардзілася бабка Еўка.

— Хай жуе, — адказаў дзед Тамаш, — жвачка робіць карову пакорлівымі, а чалавека гордым!

### ДЫЯЛОГІ Ў ЧАС ЭКЗАМЕНАЎ

Выкладчык:

— Ці не перашкаджае вам каханне здаваць экзамены?

Студэнт:

— Каханне выкладчыка — ніколі.

✲

Выкладчык:

— Што азначае тэрмін „знаходзіцца на вачах“?

Студэнт:

— Быць на лекцыі і не канспектаваць яе.

*Гадзіннік сямейны з боем.*

*— Не хвалюйцеся, мы скарыстоўваем найноўшыя метады вырывання зубоў.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галены Сцепанюк з Басацкі змяшчаем песню*

## NIM ZAKWITNIE TYSIĄC RÓŻ

**Słowa: Wanda Warska**
**Muzyka: Wanda Warska**

Nim zakwitnie tysiąc róż,
nim zakwitnie tysiąc malw,
będę miała kilka spraw
do ciebie, kilka spraw:
nie o różach, nie o bratkach,
nie o wstążkach, nie o szmatkach,
bardzo proszę cię o jedno,
bądź szczęśliwy tylko ze mną!
A zakwitnie tysiąc róż
i zakwitnie tysiąc malw,
i nie będę miała już
do ciebie żadnych spraw!

Kwiaty rosną zawsze, wszędzie
tam, gdzie im najlepiej będzie,
i na bucie, i na głowie,
jeśli ktoś się kocha w tobie.

A gdy lato pachnie różą
i gdy ludzie w różach wróżą,
to ja proszę cię o jedno,
bądź szczęśliwy, bądź bez róż
szczęśliwy ze mną.

Kwiaty rosną przecież wszędzie
tam, gdzie im najlepiej będzie,
w każdym domu, w każdym słowie,
jeśli ktoś się kocha w tobie!

**ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!**
*Каму прысвячаецца—той здагадаецца*

### САМАЛЮБСТВА

*Як ні старайся, табе ж усё мала,*
*Ты, нібы тая кадушка без дна,*
*Толькі б і знала адно,*
*Рэкі хвалы ад вядра*
*Да цямна.*

*Рэкі хвалы дзеля ўласнае славы!*
*Іншым: і ў спёку — ні кроплі вады.*
*Іншыя! Што гэта? Што за праява?*
*І загрыміць: хто іх клікаў сюды?*

*Можа, той гром і саб'е каго з тропу,*
*Мне ж ён — не больш, чым шыпенне змяі.*
*Прэч, самалюбства!*
*З дарогі!*
*Мо хоціць*
*Тых акіянаў густога сіропу,*
*Што ў тваю пашчу ўліліся халуі.*

**Алесь Бачыла**

### БУДЗЕ ЗАРПЛАТА

Міколка пытае:

— Мама, а дзе наш таўкач?

— Пазычыла суседка.

— А што, у суседчынага мужа сёння будзе палучка?

### ВОСЬ ГОРА

— Кастусь, зацягні нітку ў іголку, бо я не бачу, — просіць Кастусіха.

— Вось гора, вушка ў іголцы не бачыш, а калі іду дахаты п'яны, то нават здалёк бачыш, — адказаў Кастусь.

### ГАПКА

— Я думаю, што першай на свеце ўсё ж была Ева, а не Адам.

— Чаму?

— Таму што ўпачатку было слова!

# КУРЁЗЫ

### ЗА ПАРТАЙ... ЖАБРАКІ

У Нью-Йорку адкрыліся курсы для жабракоў. Нехта, пад мянушкай „Амар“, прыкрыўшы галаву каўпаком, чытае лекцыі аб майстэрстве жабрацтва. За пяць дзён вучобы слухачы павінны навучыцца выпрошваць міласціню як мага больш жаласліва, каб расчуліць самае каменнае сэрца. „Курсант“ павінен натуральна выдаць сябе за ахвяру нападу гангстэраў, забінтаваўшы руку і запэцкаўшы бінт таматнай пастай. Усяго трэба асвоіць каля паўсотні прыёмаў псіхалагічнай апрацоўкі „кліентуры“. Пасля заканчэння вучобы навучэнцы здаюць практычныя заняткі, залікі. Пасля заканчэння курсаў жабрак становіцца ўжо „вучоным“, „дыпламаваным“.

Жадаючых атрымаць „кваліфікацыю“ так многа, што курсы прапускаюць за год цекаллыі тысяч чалавек, і той жа „Амар“ атрымлівае штогод 30 тысяч долараў чыстага прыбытку.

У „Амара“ з'явіліся канкурэнты. Такія ж курсы адкрыліся ў Сан-Францыска. Але гэты самы „Амар“ не губляецца, ён адкрывае філіялы ў іншых гарадах краіны.

### УЗНАГАРОДЫ ЗА ДУРАСЦЬ

Чаго толькі не прыдумаюць у Амерыцы!

Амерыканскі сенатар У. Проксмайр прыдумаў штомесячна прысуджаць якому-небудзь ведамству ці прыватнай асобе іранічны прыз за „самую вялікую, найбольш смешную і бязглуздую трату грошай падаткаплацельшчыкаў“.

Нядаўна прыз „заваявала“ паштовае ведамства, якое патрацiла 3,5 мільёна долараў на шырокавяшчальную кампанію, што ставіла сваёй мэтай перапканаць амерыканцаў часцей пісаць пісьмы...

**СМЯЮЦЦА НАМІ**

**Не пі за здароўе чалавека, у якога яно лепшае за тваё.**